Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Вільня, Аўторак, 8 ліпня 1919 г. № 39.

## З ГОЛЫМІ РУКАМІ?

Вот ужо два-тры месяцы мы, беларусы, чакаем не дачакаемся пачуць ад польскай гасударсьцьвенай улады *гасударсьцьвены* праэкт па пытаньню аб Беларусі, ды так і не дачакаліся. А тым часам і ў польскай прэсе і ў польскім грамадзянстве пытаньне аб згодзе з беларусамі ня ўціхае, наадварот, ўсе з большай моцаю паўстае і паўстае. Прыватныя і поўпрыватныя асобы з польскага боку высоўваюць свае асабістыя праэкты разьвязаньня беларускіх спраў, то на агульных сходах, то на зьездах, то ў газэтах, а—возу ўсё няма ходу.

Нас, беларусаў, папікаюць тым, што мы не разумеем сваёй карысьці ад хаўрусу з Польшчай і, калі будзем яшчэ чагосьці чакаць, то апынёмся перад прадоньнем, якое нам пагражае з боку Расеі.

Асабліва стараецца даказаць нам патрэбнасьць найхутчэйшай згоды Беларусі з Польшчай Віленская польская газэта «Наш Край». Бяда толькі ў тым, што газэта сама ня можа сказаць нам, на якім грунце гэта згода магчыма.

«Наш Край» піша: «Толькі рука ў руку з Польшчай (беларусы і літвіны) могуць не баяцца маскоўскага кулака...

Але-ж таксама можаць сказаць і расейская газэта, што рука ў руку з Расеяй беларусы і літвіны могуць не баяцца польскага кулака...

Аб тым, што Беларусь павінна астацца незалежнай дзяржавай мы да апошняга часу ня чуем з польскага боку. Ні начальнік польскага гасударства, ні польскі сойм, не правіцяльства польскае не абмовіліся па пытаньню аб Беларусі ніводным ясным канкрэтным словам.

Мы ня можам лічыць адозву начальніка польскага гасударства Пілсудзкага к грамадзянам акупаванай праз польскія войскі часьці Беларусі і Літвы гасударсьцьвенай праграмай. Гэта ёсьць толькі адозва, каторая не прашкаджае польскім анэксыяністам весьці самую конкрэтную працу па далучэньню Беларусі да Польшчы.

Мы лічым, што калі Польшча шчыра хоча згоды з Беларусьсю і Літвой, то яна павінна наўперад спыніць ўсялякую працу па пытаньню аб далучэньні і абвесьціць, што Польшча прызнае правы беларускага і таксама літаўскага народаў на незалежнасьць.

Тады Польшча можа мець поўную надзею, што Беларусь і, мы думаем, Літва войдуць з Польшчай у хаўрус, каб бараніць адна адну ад няволі, аткуль бы яна ні пагражала.

Калі польская ўлада хоча і шукае згоды з намі, то яна скора знойдзе яе, прызнаўшы нашу незалежнасьць, без чаго мы ня пойдзем у хаўрус, штоб там ні было, ато якая-ж будзе роўнасьць і вольнасьць, калі той, хто запрашае ў хаўрус, ня хоча шчыра, перад усім сьветам, сказаць, што прызнае нас незалежнымі, як і сябе.

Так вось, калі ў Польшчы ёсьць палітычная праграма аб Беларусі ў прыемным для нас кірунку, то няма чаго раней чакаць зяе агалашэньнем, а калі няма, то як-жа можна гукаць нас у хаўрус, ідучы да нас ці з вядома няпрыемнай для нас праграмай, ці з голымі рукамі.

**Гарро.**

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

*3 ліпня*

**Галіцыйска - Валынскі фронт.**

Нашы войскі занялі глаўнымі сіламі лінію Падкамень — Збараў—Казова—Падгаец—Манастырчын. Мы дайшлі пярэднімі атрадамі да Стрыйі. На Валыні без перамен.

**Палескі фронт.**

Нашае войска, адбіўшы атаку бальшавікоў, пачало сваю контр-атаку, якая ідзець з пасьпехам. Мы забралі 5 кулямётаў, абоз і палонных, лік іх яшчэ ня ўстаноўлены.

**Літоўска-Беларускі фронт.**

На паўноч-усходнім вучастку дужая баёвая дзеяльнасьць. На рэшце фронту стычкі разьведчыкаў.

---

**Лойд-Джорж паслом у Вашынгтоне.**

ВЕНА, 3 ліпня. Венскі кар. піша з Бэрліну, што водле вестак «Post», Лойд-Джорж ёсьць кандыдат на пасла у Вашынгтоне. (ПАТ).

**Забралі Харкаў.**

Тэлеграма П. А. Т. падцьверджае, што Денікін узяў Харкаў.

**Архангельскі урад прызнае Колчака.**

ВЕНА, 3 ліпня. Кар. бюро піша з Парыжу: «Архангельскае прадстаўніцтва прызнала адм. Колчака вярхоўным правіцелям усей Расеі і паслала яму павіншаваньне. Колчак адказаў, што ён глыбака пераконаны ў тым, што канчыцца час прыгнячэньня ў Расеі і яна ізноў займе месца сярод цывілізованых народаў. (П.А.Т.)

**Адказ Злучаных Штааў Савецкаму Ураду.**

ВЕНА, 3 ліпня. Венскае Кар. Бюро піша з Вашынгтону: урадавы дэпартамэнт афіцыяльна апавясьціў расейскі савецкі ўрад, што рэпрэсіі проціў амэрыканскіх грамадзян у Расеі, вызвалі ў Злучаных Штатах абурэньне проціў Савецкага ўраду. (ПАТ).

**Забастоўка ў Бэрліне.**

БЭРЛІН, 3 ліпня. Забастоўка работнікаў на чыгунцы зрабіла тое, што няма дастаткі вугальля, а таксама ў свой чарод астанавілася дзеяльнасьць элэктрычных, газавых і другіх прамысловых прадпрыемстваў... Больш за усё дае адчуваць адсутнасьць вугальля ў пякарнях, дзеля гэтага ў Бэрліне нельга купіць хлеба. Міністр грамадзкай працы Цэсер зьвярнуўся да жыхароў з адозвай, ў якой піша, што забастоўка работнікаў на чыгунцы пачалася наўпрэкі волі ўсіх зялезнадарожных аргапізацыяў. Ня гледзячы на загад Носке, забастоўка ідзець далей. Пасьледзства яе вельмі сумныя. Назначаныя для Бэрліна 9 тысячаў вагонаў стаяць у дарозе, запасы еміны ў іх псуюцца, жывёла прападаець з голаду. Урад выдаў загад, па якому, тыя з работнікаў, якія ня станупь 1 да працы, цераз 3 дні, будуць лічыцца звольненымі. (П. А. Т.).

